Цана асобнага нумару 20 грошаў.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 злотыя**
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 25. Вільня, Нядзеля, 10-га жніўня 1924 г. Год I.

## Рэдкі юбілей.

Нармальна газэта сьвяткуе выхад свайго сотнага або тысячнага нумару. Аднак, мы вельмі рады, што сягоньня выпускаем прынамся *дваццаць пяты* нумар „*Сына Беларуса*“!

Так ужо зложылася жыцьцё Заходняе Беларусі...

Што і гэткі скромны прэсавы юбілей у нас—рэдкае зьявішча, паказвае статыстыка аб беларускіх газэтах, выдаваных у Вільні ад часу, калі скончылася „свабода прэсы“, уведзеная на выбарны пэрыад — у часе выбараў дэпутатаў у Сойм і Сэнат.

8 сьнежня 1922 году пачала выхадзіць „*Наша Будучына*“. Сканфіскаваны № № 2 і 6. *Зачынена на 6-ым нумары.*

3 сакавіка 1923 году пачала выхадзіць газэта „*Новае Жыцьцё*“, якое *зачынена на 13-тым нумары.* Сканфіскаваны №№ 4, 8, 10 і 13.

У канцы мая таго-ж 1923 году выходзіць „*Нашае Жыцьцё*“, *зачыненае ўжо на 6-ым нумары*, хаця адзін *толькі* № 1 быў сканфіскаваны.

5 чэрвеня 1923 году выходзіць „*Наш Сьцяг*“, якому пашэньціла выпусьціць *24 нумары.* Сканфіскаваны №№ 1, 2, 7 і 17. Газэта зачынена акурат напярэдадні выхаду 25 нумару!

Чародная газэта—„*Вольны Сьцяг*“— выходзіць 26 жніўня 1923 году і выпускае *20 нумараў*. Сканфіскаваны №№ 1, 15, 16 і 17.

28 кастрычніка пачала выхадзіць газэта „*Змаганьне*“, якая аказалася найбольш даўгавечнай і мела шчасьце справіць такі-ж юбілей, які мы спраўляем сяньня: яна выпусьціла ажно *31 нумар*, з якіх былі сканфіскаваны №№ 15—у 1923 годзе і 1 (22) у 1924 годзе.

Беспасярэднім нашым папярэднікам была газэта „*Голас Беларуса*“, якая *зачынена пасьля 21 нумару*. Сканфіскаваны былі №№ 14, 15, 19 і 21. „Голас Беларуса“ пачаў выхадзіць 14 лютага 1924 году.

Наш „*Сын Беларуса*“, які пачаў выхадзіць 18 мая 1924 году, быў сканфіскаваны тры разы: за №№ 15, 17 і 23.

Да ліку самых недаўгавечных беларускіх газэт трэба залічыць дзьве: „*Саха*“, *зачыненая на першым нумары, і „Вясковы Пралетары“, зачынены на другім нумары.*

Адзінай даўгавечнай газэтай зьяўляецца друкаваная лацінікай (усе вышэй пералічаныя выходзілі гражданкай) часопіс „*Krynica*“, якая выходзіць ужо восмы год. Але і яна ад часу выбараў у Сойм і Сэнат мела ўжо тры канфіскацыі: у 1923 годзе — № 5, у 1924 — №№ 9 і 14.

За час нашае справаздачы, апрача пэрыадычных газэт, выйшла *10 аднаднёвак*: „Беларускі Гоман“, „Крык Праўды“, „У 5-ыя угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі“, „Беларуская Доля“, „Зарава“, „Новае Нашае Жыцьцё“, „Падняты Сьцяг“, „Сьцяг“, „Сьцяг Народу“, „Сьцяг Волі“, — з іх *сканфіскаваны чатыры.*

Усе гэтыя газэты выходзілі, ці выходзяць, у Вільні, апрача аднаго толькі „Вясковага Пралетарыя“, які, здаецца, выходзіў у Горадні.

Вельмі цікава ў гэтай статыстыцы тое, штс па ўсім гэтым справам аб канфіскацыі дагэтуль *ня было ніводнага судовага прыгавору, які-бы засудзіў рэдактара* сканфіскаванае ці зачыненае часопісі. У справах-жа, якія былі разгледжаны судом, *вынесены апраўдальныя прыгаворы...*

Дык вось, пераглядаючы ўвесь гэты сьпісак нашых папярэднікаў, мы ў дзень выпуску 25-ага—юбілейнага — нумару нашае часопісі можам толькі цешыцца, што пры варунках, утварыўшыхся для беларускае прэсы ў Заходняй Беларусі, сяньня пішам на газэце гэтую цыфру „25“.

Цыфра невялікая... Але хто ведае, колькі працы і нэрваў укладаецца ў газэту, якая „ня ведае ні дня, ні гадзіны“, калі яе жыцьцё можа урвацца,—для таго і наш юбілей прадстаўляе запраўды важны мамэнт!

## Беларусы і жыды.

Нядаўна ў польскай абшарніцкай газэце „Słowo“ была надрукавана перадавая стацьця „Па адрасу беларусаў“, у якой рэдакцыя дае нам „добрую раду“, каб стараліся захаваць „чыстасьць“ свайго нацыянальнага руху. Польскія абшарнікі вельмі, бачыце, непакояцца, што рух наш можа ўвабраць у сябе элемэнты чужыя, можа стацца не даволі „незалежным“...

Перш за ўсё нашых „прыяцеляў“ з газэты „Słowo“, якія ўвесь час клічуць польскі ўрад, каб не рабіў беларусам ніякіх уступак, трывожыць тое, што ў барацьбе з польскай дэнацыяналізатарскай палітыкай беларусы карыстаюцца тымі-ж мэтадамі, якімі карысталіся ў сваім часе літвіны. Аднак, у чым-жа гэта выяўляецца, рэдакцыя польскае газэты ня кажа. Дый што тут казаць: літвіны рукамі і нагамі адбіваліся ад навязываных ім „дабрадзействаў“ польскае мовы і культуры,—і то тады, калі Польшча йшчэ не магла апалячываць літвіноў гвалтам, бо ня мела сваей дзяржавы. Цяпер, калі Польшча навязывае нам ужо пад націскам усяе сілы сваей дзяржавы польскую мову, польскую школу, польскую культуру, — беларусы таксама і зусім слушна адбіваюцца ад гэных „дабрадзействаў“! Вось і ўвесь наш „грэх“!

Але гэная гутарка аб літвінох — гэта толькі „туман у вочы“, каб укрыць тое, што запраўды трывожыць палякоў і да чаго яны ня хочуць адкрыта прызнацца. Справа тутака йдзе ня болей і ня меней, як аб адносіны да беларускага руху... жыдоў!

„Słowo“ вельмі асьцярожна і дыпляматычна падыходзе да гэтае справы. Яно ламае рукі над тым, што Віленская Беларуская Гімназія — гэта гімназія не беларуская, а „беларуска-жыдоўская“! І той факт, што ў беларускую сярэднюю школу ахвотна йдзе жыдоўская моладзь, асабліва трывожыць польскіх паноў.

Мімаходам адзначым, што „Słowo“ крыху перацэнівае ўчасьце жыдоў у нашай гімназіі: паводле статыстыкі за апошнія тры гады, ў Віленскай Беларускай Гімназіі вучылася жыдоў у 1922 годзе—17,2%, у 1923—15,7%, а ў 1924 — толькі 13%,—значыць, блізу гэтулькі, сколькі нават расейскі царскі ўрад дапускаў у казённыя школы, не баючыся за „чыстасьць“ расейскай культуры...

Але пойдзем далей. Віленская Беларуская Гімназія — гэта йшчэ поўбяды! Горшая справа, што ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце ў Менску гэтак сама вучыцца жыдоўская моладзь, дый там яе ўжо не 13%, а куды больш: дзеці мястовага жыдоўскага насяленьня ў шмат вялікшай лічбе канчалі да вайны гімназіі, чым дзеці беларускага сялянства, дык зусім натуральна, што спаміж апошніх ня так многа было падгатаваных да вучэньня ў вышэйшай школе. І гэтак тыя жыдоўскія інтэлігенты, якія скончаць ці то нашу гімнасію, ці то Беларускі унівэрсытэт (а з Віленскае Беларускае Гімназіі адкрыта дарога або заграніцу, або ў Менск: у польскія унівэрсытэты ня прыймаюць!), будуць ужо пад уплывам беларускае культуры, а мо' і руку сваю прыложаць да будаваньня яе.

Вось тут і надыходзім да таго, чаго баяцца польскія паны. За расейскіх часоў яны прывыклі бачыць, што жыдоўскае грамадзянства вельмі лёгка—дзякуючы расейскай школе—прыймала расейскую мову, расейскую культуру, ды гэтак узмацовывала расейскія ўплывы ў нашым краю нагул. Сьлепа насьлядуючы палітыку маскоўскіх чорнасоценцаў і заплюшчываючы вочы на тое, што жыды зрабілі вялізарны крок наперад у сваім нацыянальным разьвіцьці, палякі ў нас хацелі-бы ўжыць жыдоў для выпаўненьня ролі палянізатараў нашага краю, хацелі-бы, каб жыды апалячыліся самі і пасьля апалячывалі-бы беларусаў пры сталых гандлёвых і іншых зносінах з нашым народам. А тут аказваецца, што жыды ахвотна йдуць у беларускія школы і вучацца пабеларуску, ды мо' ў будучыні самі прыложаць руку да разьвіцьця беларускае мовы і літэратуры: прыклад Зьмітрака Бядулі, слаўнага беларускага паэта-жыда, можа аказацца не адзінокім!

Дык ёсьць дзеля чаго трывожыцца польскім паном! Тым балей, што жыды зусім ясна заяўляюць, што навязываную ім ролю рашуча адкідаюць: так, сэнатар Кернэр, у часе разгляду „языковых“ законаў у сэнацкіх камісіях, востра выступіў проці гэтых праектаў, якія імкнуцца да таго, каб абярнуць жыдоў у арудзьдзе палянізацыі нашага краю, на што жыды, у пачуцьці сваей годнасьці, ніколі ня згодзяцца!

Больш таго: як нас інфармуюць, сярод жыдоўскага грамадзянства йдуць гутаркі аб тым, ці не завясьці ў жыдоўскіх гімназіях выкладаньне беларускае мовы і літэратуры, бо ў Беларускім

## Французскі адказ п. Тугутту.

Француская газэта „l'ère nouvelle“, якая ў сваім часе першая апублікавала вядомы пратэст проці белага тэрору ў Польшчы, пасьля пасылкі п. Тугуттам пісьма да п. Пэнлевэ з запярэчаньнем пададзеных у пратэсьце фактаў дала абшырны адказ быламу галаве „вызваленцаў“, падпісаны журналістам Віктарам Башам. Зьмяшчаем тут галоўную часьць артыкулу Баша:

„Мы, як сьлед, разважылі аргумэнты п. Тугутта і выясьненьні нашых прыяцеляў і, пасьля дасьпелага абдуму, мы публічна заяўляем, што ў поўнасьці падтрымліваем сутнасьць нашага маніфэсту, ды яшчэ раз зварачаем увагу сьвету на тое, што мы назвалі і далей называем белым тэрорам у Польшчы.

„Бо кім-жа пададзены нам тыя праступленьні, якія мы закляймілі? Бальшавікамі? — Ды не! Мы ўзялі іх з інтэрпэляцыі, якую падаў у польскім Сойме дэпутат Антон Кордовскі ад імя клюбу людовае партыі, у якой — як гэта пікантна! — галавой зьяўляецца п. Тугутт, той самы п. Тугутт, які называе нашы інфармацыі абмылковымі, ці прынамся перавялічанымі, калі тым часам мы іх маем ад яго! Гэтая інтэрпэляцыя людовае партыі падпісана ўсім клюбам, паміж іншым—п. Сьмяровскім, былым міністрам, старшынёю польскае Лігі Правоў Чалавека, і кажа нам аб тым, што вычваралася ў польскіх вастрогах, як польская паліцыя вяла дапросы, якімі мэтадамі уціску карыстаўся польскі ўрад у адносінах да нацыянальных меншасьцяў у Беларусі, Украіне, Усходняй Галічыне. Гэта прыяцелі п. Тугутта расказалі нам аб мучэньні палітычных вязьняў!“

Далей аўтар стацьці пярэчыць заявам, быццам усё гэтае адносіцца выключна да камуністаў.— „Але-ж гэта зусім не камуністы, і, у кожным разе, не адны толькі камуністы. Галоўная маса вязьняў, точнае лічбы каторых я ня ведаю,—прынамся для адных беларусаў яна даходзіць да 10,000 душ,—складаецца з мужчын і жанчын, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў і адзіным праступкам якіх зьяўляецца дамаганьне правоў, гарантаваных меншасьцям Трактатамі“.

Успомніўшы вядомае нашым чытачом выступленьне 152 грамадзкіх дзеячоў Польшчы з пратэстам проці нацыянальнага і палітычнага уціску, п. Віктар Баш кажа;

„Гэтак праступленьні — ачывістыя, белы тэрор—бязспрэчны, і наш крык на трывогу тысячу разоў апраўданы“.

Не шанцуе п. Тугутту нават і тут: і лідэрства ў сваей партыі утраціў, і міністэрскага партфэлю не дастаў, дый яшчэ заграніцай праслыў за брахуна!.....

# Т. Врублеускі аб праблеме нацыянальных меншасьцяу.

У апошніх нумарох газэта „Kur. Polski“ зьмяшчае адказы найвыдатнейшых прадстаўнікоў польскай думкі на анкету, абвешчаную ў гэтай палючай для Польшчы справе.

У першы чарод высказаўся праф. Дыбоўскі, вядомы польскі англавед, які „ўтапіў“ урадовую палітыку нацыяналізму з пункту гледжаньня англійскай палітычнай культуры; высказаўся і вядомы кракаўскі юрыст, праф. Цоль, які вельмі трафна азначыў хваробу сучаснага польскага грамадзянства, як „лішак пачуцьця нацыянальнага і недахват пачуцьця гаспадарственага“. Кажучы прасьцей, гэта значыць — *лішак нацыянальнага эгаізму* і *нястача пачуцьця справядлівасьці, маральна-праўнага разьвіцьця*. Бо маральны зьмест установы гаспадарства—гэта-ж якраз і ёсьць арганізацыя справядлівасьці.

Цяпер у тэй-жа газэце зьявіўся кароткі, але нязвычайна важны і важкі артыкул нашага віленскага, вядомага ня толькі ў Польшчы, патрыярха польска-расейскіх юрыстаў-адвакатаў, п. Тадэуша Врублеўскага, як адказ на пытаньне аб меншасьцях у Польшчы. Падаем гэты артыкул цалком.

Справа вымагае *прынцыповага ператварэньня самага ўраду польскага гаспадарства*, — так фармулуе Врублеўскі зьмест праблемы.

У справе меншасьцяў я зусім згаджаюся з паглядам п. К. Срокоўскага, які выражаны ў яго ведамай брашуры „Sprawa narodowościowa“.

У дзяржаве з гэткім рознародным нацыянальным складам, дзе меншасьці прадстаўляюць каля 40 проц., пытаньне, ці нацыянальная справа зьяўляецца пільнай і актуальнай, — пахне папросту іроніяй... Ня можа-ж падлягаць сумліву, што ад хуткага і памыснага разьвязаньня гэтай справы залежыць ня толькі разьвіцьцё, але і самае істнаваньне Польскай дзяржавы.

Нажаль, ня думаю, каб тыя ці іншыя частковыя рэформы, нават законадаўчыя, ня кажучы аб адміністрацыйных, маглі-б памагчы гэтаму разьвязаньню справы.

У найлепшым разе яны толькі часова падлечаць хваробу, тымчасам *справа вымагае прынцыповага ператварэньня самога дзяржаўнага ладу Польшчы*, якая цяпер збудавана паводле найгоршага, засуджанага рашуча як сучаснай навукай, так роўна і жыцьцём, тыпу *паліцэйскага гаспадарства*, абапёртага на 4-х кітах: этатызьме (лішняе загляданьне дзяржавы ў жыцьцё грамадзянства), бюракратызьме, цантралізьме і нацыяналізьме...

Гаспадарства, як кажа Ельлінэк (знамяніты нямецкі юрыст), павінна быць *адзінствам усіх грамадзкіх зьвязкоў — грамадзянствам грамадзянстваў*. Але ў сучаснай Польшчы гаспадарства зьяўляецца *бюракратычным мэханізмам*, які стаіць *панад грамадзянствам, перашкаджаючы яго жыцьцю сваей самаволяй*, які *выразна стаўляе сябе насупраць грамадзянства*.

Бязсумліўна, — праблема нацыянальных меншасьцяў павінна разьвязывацца ў залежнасьці ад характару сувязі таго ці іншага насяленьня з тэрыторыяй. Народы, асеўшыя на сваей тэрыторыі, як літвіны, беларусы, украінцы, маюць права на вызначэньне для іх пэўных *аўтаномных тэрыторыяў*. Другія, як жыды, расейцы, немцы і іншыя, могуць толькі прэтандаваць на раўнапраўе адносна мовы і на аўтаномію пэрсанальнага тыпу — ў галіне культурна-асьветнай дзеяльнасьці.

У кожным разе ня можна даваць прывілеі ці перавагу той ці іншай рэлігіі, бо гэта рашуча пярэчыць Канстытуцыі.

Ня можна таксама, нарушаючы прынцыпова раўнапраўе, ствараць прывілеі для тых ці іншых групаў насяленьня ці тэрыторыяў, як гэта робіць Польшча. Напрыклад, „языковыя“ законы найбольш даюць найбольш варожаму да польскай дзяржавы украінскаму насяленьню, г. ё. Галічыне (хаця, праўду кажучы, *даюць менш, як давала Аўстрыя*!). Бо тады сам урад як-быццам прызнае слушнасьць паслу Тарашкевічу, які даводзіў, што „нацыянальныя меншасьці могуць чагось дабіцца толькі шляхам рэвалюцыйным“.

У кожным разе трэба перадусім прызнаць пэрсанальнае права кожнага на азначэньне свае нацыянальнасьці і права бацькоў ці апякуноў на азначэньне нацыянальнасьці малалетніх.

І найкатэгарычней трэба спыніць бяспрыкладную ў гэтым сэньсе самаволю мясцовай адміністрацыі.

**Тадэуш-Станіслаў Врублеўскі.**

---

Унівэрсытэце ў Менску жыды хутчэй знойдуць магчымасьць даставаць вышэйшую асьвету, чым у вышэйшых школах „найдэмакратычнейшае“ Польскае Рэспублікі...

Вось гэтага і баяцца польскія паны, вось дзеля гэтага яны крывадушна ліюць свае кракадзілавыя сьлёзы над „занячышчэньнем“ беларускага руху, хаця самі на-гвалт стараюцца „занячышчаць“ польскую культуру, гвалтам запрагаючы да працы дзеля яе і беларусаў, і украінцаў, і... тых-жа жыдоў!

**Ів. Мялешка.**

# Кангрэс у справе аб'яднаньня Цэркваў.

У чэскім горадзе Велеградзе адбыўся кангрэс, які меў заданьнем пасунуць упярод вялікую справу аб'яднаньня раскалоўшыхся яшчэ ў XI сталецьці Цэркваў адзінага хрысьціянства. Прынялі ўчасьце у кангрэсе 20 япіскапаў.

Прысутны на кангрэсе дэлегат Папы заявіў, што Апостальская Сталіца падтрымае кожную спробу аб'яднаньня Цэркваў.

Ініцыятыва кангрэсу належыць да уніяцкага—так званага „Кірыла-Мяфодаўскага вызнаньня“; большасьць вызнаўцаў гэтае царквы жыве ў Чэхаславакіі і Югаславіі.

Гэтая група апрацавала і падставы паразуменьня праваслаўных і каталікоў, якое магло-б давясьці да аб'яднаньня Цэркваў.

З абшырнай дэкляарацыяй выступіла група праваслаўных так-званых „сьвецкіх багасловаў“, вядомых расейскіх рэлігійных мысьліцеляў, як — Булгакаў, Карташоў, Бердзяеў, Трубецкой Юры, якія ад імя праваслаўнай дэлегацыі паставілі гэткі ўступны варунак паразуменьня: — Трэба перадусім, каб каталіцкі Касьцёл „фармальна адкінуў або значна аслабіў на дзеле сілу вядомага догмату ватыканскага сабору 1870 г. *аб неабмыльнасьці Папы*“.

Гэтая дэкляарацыя адзначае, што галоўнай перашкодай для паразуменьня ў справе аб'яднаньня зьяўляецца імкненьне каталіцкага Касьцёлу да „асыміляцыі“—да падпарадкаваньня і ператварэньня праваслаўя ў каталіцызм. Пры гэткім імкненьні страшэнную небясьпеку для праваслаўя прадстаўляла-б прызнаньне неабмыльнасьці і найвышэйшай улады ў Касьцёле адзінага Папы, а не Сабору. Гэтая дэкляарацыя фактычна спыніла працу кангрэсу. Пастаноўлена пакуль што.... — кожныя 3 гады зьбірацца ў тым-жа Велеградзе ў тэй справе...

# Палітычныя падзеі.

### Палажэньне на Г. Сьлёнску.

Забастовачная сітуацыя на Сьлёнску завастрылася — дзеля таго, што работнікі патрэбавалі, каб канфлікт быў зьліквідаваны да 6 жніўня.

На некаторых капальнях пакінулі працу нават тыя работнікі, што былі прыстаўлены саюзам да так званых неабходных работаў, як пампаваньне вады з шахтаў і інш. У выніку гэтага тыя капальні заліты вадой.

### У Дамброўскім районе.

Газэты падаюць, што абвешчаная камуністамі забастоўка ў Дамброўскім вугальны районе не ўдалася. Пакуль што толькі... 10.000 работнікаў далучыліся да яе. Пад уплывам умераных партыяў — ППС і Нац. Работн. Партыі — каля 90 проц. дамброўскіх вуглякопаў, як падае „Kur. Por.“, адмовіліся падтрымаць сваіх сьлёнскіх таварышоў.

Гэта, зразумела, памагло ўладзе пачаць рашучую ліквідацыю „камуністычнай агітацыі“... Большасьць сяброў так званых „камітэтаў лучнасьці“ (з работнікамі Сьлёнску) былі, як камуністы, арыштаваны паліцыяй.

ППС і НПР, як усюдых, вядуць энэргічную барацьбу проці камуністаў, якія імкнуцца да агульнай забастоўкі.

### Разьясьненьне ўраду.

Міністар Працы разьясьніў, што распараджэньне аб 10-гадзінным дню працы мае сілу толькі для гутнага промыслу, але ня можа аднасіцца да вуглякопаў і горнарабочых.

### Польскі пракурор пад судом.

Уславіўшыся з кракаўскага працэсу, — (як прак. Каміньскі — з Беластоцкага!) пракурор Сазаньскі, як ведама, папаў пад суд за тое, што націскаў на сумленьне прысяжных, каб яны, нібы дзеля хваробы, сарвалі працэс, бо склад прысяжных быў прыхільны да апраўданьня падсудных. Тады, казаў пракурор, калі гэты працэс будзе сарваны, дык ён, пракурор, „прыгатуе такі склад „судзьзяў народнага сумленьня“, які ўжо напэўна „закатае“ абвінавачаных. Як мы памятаем, ўсё гэта было выкрыта на судзе адвакатам паслом Лібэрманам.

У выніку гэтага прак. Сазаньскі і папаў пад суд, і цяпер толькі што дапрошаны ў гэтай справе ўсе прысяжныя; мае адбыцца допрос і самога прак. Сазаньскага.

### Вось дык „патрыёты“!

Кантрольная камісія саюзьнікаў, якая шукала па ўсіх банках сьвету капіталаў нямецкіх прамыслоўцаў і абшарнікаў, пахаваных ад Антанты,—натрапіла на зложаныя там-жа капіталы... польскіх „патрыётаў“, схаваныя ад падатковай рукі скарбу свае ўласнай айчызны.

Аказалася, што ў загранічных банках польскія капіталісты-прамыслоўцы схавалі праз увесь час, а педадусім у „мядовыя месяцы“ панаваньня Хьена-Пяста (—Кухарскага і Вітаса),—аж паўмільярда (500.000.000) даляраў!.. Гэтыя вялізарныя капіталы паны прамыслоўцы зрабавалі ў польскага народу, атрымаўшы іх пераважна, як „крэдыты на падтрыманьне прамысловасьці“.—ад хьенскага ўраду, і карыстаючыся амаль не дармавой працай работнікаў, якім плацілі абязцэненыя маркі, хаваючы даляры.

„Kur. Por.“ падае яшчэ, што, напрыклад, 4 „згалеўшыя“ ад падаткаў польскія абшарнікі — Браніцкі, Замойскі, Ланьцуцкі і Патоцкі — маюць схаваныя ў загранічных банках аж 2 з паловай мільярда залат. франкаў...

### „У страха вочы вялікія...“

Нядаўна ў варшаўскіх газэтах зьявілася вестка аб арыштаваньні каля Варшавы (у Гэленове) цэлага штабу польскіх камуністаў. Былі, як заўсёды, гімны „спраўнасьці польскай паліцыі...“.

---

# Нацыянальная палітыка БСРР.

(Гл. № 24 „Сына Беларуса“).

### 2. Аб мове ў школах.

Дзеля забясьпечаньня за жыхарствам Беларусі права выхоўваць і вучыць сваіх дзяцей у іх роднай матчынай мове, а таксама дзеля найвялікшага разьвіцьця культуры кожнай нацыянальнасьці, насяляючай Беларусь, 2-я сэсія ЦВК Саветаў Беларусі пастанаўляе:

1. Абучэньне і выкладаньне ва ўсіх установах сацыяльнага выхаваньня і прафэсіянальна-тэхнічнай асьветы, а таксама абслугоўваньне ўсіх культурна-асьветных патрэбнасьцяў жыхарства павінна вясьціся ў роднай матчынай мове нацыянальнасьцяў, насяляючых Беларусь.

2. Мовы беларуская і расейская — першая, як мова большасьці жыхарства Беларусі, другая, як маючая агульна-саюзнае значэньне, зьяўляюцца абавязковымі прадметамі выкладаньня ва ўсіх вучэбных установах БССР.

**Увага.** Парадак правядзеньня гэтага пункту ў розных тыпах установаў распрацоўваецца Н. К. Асьветы.

3. Правядзеньне беларусізацыі культурна-асьветных установаў далучаных часьцін Гомельскай, Віцебскай і Смаленскай губэрняў дзеля выраўніваньня іх па Меншчыне, каб забясьпечыць нармальнае разьвіцьцё беларускага жыхарства ў далучаных часьцінах, павінна йсьці паступова і няўхільна.

4. Тэрмін завяршэньня беларусізацыі і пераводу ўсіх наагул культурна-асьветных установаў на родныя мовы абслугоўваных імі груп жыхарсіва па ўсёй сучаснай Беларусі ўстанавіць:

а) для ўстановаў па сацыяльнаму выхаваньню—3 гады;

б) для ўстановаў па прафэсіянальна-тэхнічнай асьвеце і палітычна-асьветных—5 гадоў.

**Увага.** У адносінах да аддзельных установ тэрмін гэты можа быць скарочаны НК Асьветы.

5. За азначаны ў п. 4 пэрыад часу неабходна далажыць усіх заходаў да плянавай перападрыхтоўкі і падрыхтоўкі культурна-асьветных працаўнікоў, якія могуць абслугоўваць культурна-асьветныя ўстановы, працуючыя на мовах абслугоўванага імі насяленьня, і забясьпечаньня іх неабходнымі вучэбнымі падручнікамі і ўспамагальнымі прыналежнасьцямі.

6. Даручыць Народнаму Камісарыяту Асьветы ў 1924—1925 вучэбным годзе правесьці ніжэйпаданыя мерапрыёмствы:

**А. У галіне сацыяльнага выхаваньня:**

а) увесьці беларускую мову, як абавязковы прадмет навучаньня ўва ўсіх тыпах школ сац. выхаваньня;

б) камплектаваньне ўстановаў сацыяльнага выхаваньня рабіць у далейшым, строга кіруючыся моўнымі асаблівасьцямі дзяцей;

в) перавесьці выхаваньне і навучаньне на беларускую мову ў дзіцячых садох і ў першыя гады навучаньня працоўных школ, дзе вучацца дзеці беларускай нацыянальнасьці;

г) у тых-жа ўстановах, якія істнуюць і маюць рознанацыянальны дзіцячы склад, неабходна праз рэарганізацыю імкнуцца да максімальнага забясьпечаньня выхаваньня і навучаньня на роднай мове;

д) працягнуць праводжаную ўжо беларусізацыю сямёхгадовых школ Меншчыны шляхам пераходу выкладаньня ў іх старэйшых клясах на беларускую мову;

е) сумесна з саюзам працаўнікоў асьветы зрабіць перагрупоўку пэдагагічнага пэрсаналу з такім рахункам, каб усе школы сямёхгодкі і вопытна-ўзорныя школы з перавышаючым лікам дзяцей беларускай нацыянальнасьці былі забясьпечаны беларусазнаўцамі;

ж) азнаёміць настаўнікаў і інш. культурна-асьветных працаўнікоў установаў сацыяльнага выхаваньня з беларускаю моваю шляхам рассылкі ў кожную ўстанову вучэбнай і пэдагагічнай літэратуры на беларускай мове і арганізацыі ўлетку каротка-тэрміновых курсаў беларусазнаўства;

з) даставіць установам сацыяльнага выха-

